Гродна
№22 (457),
4 снежня 2016

www.slowo.grodnensis.by



Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

# ЯК СТВАРАЮЦЦА АПЛАТКІ?

Кожны год падчас свят Божага Нараджэння мы дзелімся аплаткай. Яна вандруе з рук у рукі разам з пажаданнямі і словамі паяднання. Аднак у перадсвяточнай ліхаманцы мала хто задумваецца, адкуль на нашых сталах бярэцца вігілійны хлеб, хто яго робіць і як цяпер выглядае яго выпяканне. Каб знайсці адказы на гэтыя пытанні, прапануем зазірнуць у аплаткарню сясцёр назарэтанак у Навагрудку.

• працяг на с. 3

## Каляндар падзей

**4 снежня**
*Дзень малітвы за ўсіх дабрадзеяў Касцёла.*

**5 снежня**
*Гадавіна асвячэння катэдральнай базілікі ў Гродне.*

**8 снежня**
*Урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.*

**11 снежня**
*У святынях Гродзенскай дыяцэзіі благаслаўленне маці, якія чакаюць патомства.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

**Снежань**
*Аб новых і святых пакліканнях да святарскага, манаскага і місіянерскага жыцця з Гродзенскай дыяцэзіі.*

*Аб мужнасці для выбраных ісці за голасам паклікання і аб ласцы трываласці ў службе Богу і людзям.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

**“Голас Евангелля”**
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

**“Сімвал веры”**
*Тэлерадачa аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале “Беларусь–4”.*
***Чарговы выпуск – 6 снежня ў 19.45, паўтор – 7 снежня ў 9.00.***

**Навіны з Ватыкана па-беларуску**
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку “Eutelsat Hotbird 13” на канале “Radio Vaticana Telepace”. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале “Культура” Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

**“Падчас Адвэнту мы пакліканы пашыраць гарызонт нашых сэрцаў”. Папа Францішак**




**II НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ**
**Мц 3, 1–12**

У тыя дні з'явіўся Ян Хрысціцель, які навучаў у Юдэйскай пустыні і казаў: "Пакайцеся, бо наблізілася Валадарства Нябеснае". Бо гэта той, пра каго сказаў прарок Ісая: "Голас таго, хто кліча ў пустыні: падрыхтуйце дарогу Пану, раўняйце сцежкі Яму". Сам жа Ян меў адзенне з вярблюджай воўны і скураны пояс на бёдрах сваіх; а ежай яму была саранча і дзікі мёд. Тады Ерузалем і ўся Юдэя, і ўсе ваколіцы Ярдана выходзілі да Яго. І прымалі хрост ад яго ў рацэ Ярдан, вызнаючы свае грахі. Убачыўшы многіх фарысеяў і садукеяў, якія прыходзілі да яго хрысціцца, ён сказаў ім: "Племя змяінае, хто навучыў вас уцякаць ад надыходзячага гневу? Прынясіце ж годны плён пакаяння, і не думайце казаць у думках сваіх: «Наш айцец – Абрагам». Бо кажу вам, што Бог можа з камянёў гэтых узняць дзяцей Абрагаму. Ужо і сякера прыкладзена да карэння дрэваў; бо кожнае дрэва, што не дае добрага плоду, будзе ссечана і кінута ў агонь. Я хрышчу вас у вадзе для пакаяння, але той, хто ідзе за мною, мацнейшы за мяне, і я не варты несці сандалі Ягоныя. Ён будзе хрысціць вас Духам Святым і агнём. Лапата Ягоная ў руцэ Яго, і Ён ачысціць гумно сваё і збярэ пшаніцу сваю ў свіран, а мякіну спаліць агнём непагасным".

## ПАТРЭБА ШЧЫРАГА НАВЯРТАННЯ

Апраўданне – найчасцейшая рэакцыя на сітуацыі, якія вымушаюць зрабіць перад іншым справаздачу са сваіх паводзін. Мы прыдумваем розныя адгаворкі, каб захаваць, як здаецца, непахісным свой аўтарытэт.

Так паступалі фарысеі і садукеі. Яны прымалі хрост ад Яна, бо гэта было папулярна у той час. "Калі ўвесь народ ідзе хрысціцца, дзе яго правадыры?". Баючыся пачуць падобныя пытанні, яны ішлі разам з усімі. Ян Хрысціцель прыпамінае ім аб навяртанні, калі трэба скрушыць сваё сэрца перад Богам, пакаяцца і змяніць свае паводзіны на лепшыя. У гэтым чалавеку не дапамагаюць апраўданні: "Мой айцец – Абрагам", "Я не вінаваты, гэта дрэнныя людзі перашкаджаюць мне быць добрым" ці "Я – начальнік / міністр / ксёндз, мне можна тое, што нельга іншым"… Бог глядзіць у сэрца кожнага і ўсё бачыць. Неабходна шчыра навяртацца з грахоў.

**III НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ**
**Мц 11, 2–11**

Калі Ян пачуў у вязніцы пра чыны Хрыста, паслаў вучняў сваіх спытаць Яго: "Ты той, які павінен прыйсці, ці нам чакаць іншага?". І сказаў ім Езус у адказ: "Ідзіце, абвясціце Яну тое, што чуеце і бачыце: сляпыя зноў бачаць і кульгавыя ходзяць, пракажоныя ачышчаюцца і глухія чуюць, памерлыя ўваскрасаюць і ўбогім абвяшчаецца Добрая Навіна. І шчаслівы той, хто не будзе сумнявацца ўва Мне". Калі ж яны пайшлі, Езус пачаў гаварыць народу пра Яна: "На што выйшлі вы ў пустыню глядзець? На трысціну, якую вецер хістае? На што ж вы хадзілі глядзець? На чалавека, апранутага ў мяккія шаты? Тыя, хто носіць мяккія шаты, знаходзяцца ў каралеўскіх дамах. На што вы хадзілі глядзець? На прарока? Так, кажу вам, і нават больш, чым на прарока. Гэта той, пра каго напісана: «Вось Я пасылаю анёла Майго перад Табою, які падрыхтуе Табе дарогу». Сапраўды кажу вам: сярод народжаных жанчынамі не з'явіўся большы за Яна Хрысціцеля. Але найменшы ў Нябесным Валадарстве – большы за яго".

## ПАЧАТАК БОЖАГА ВАЛАДАРСТВА

Здзіўляе недавер Яна Хрысціцеля Езусу, Месіі, прыйсце якога найвялікшы прарок Старога Запавету абвяшчаў перад сваім арыштам. Гэта Ян першым назваў Хрыста Баранкам Божым, які бярэ на сябе грахі свету, назваўся нявартым развязаць раменьчык на сандалях Ягоных. Ці прарок тады сапраўды сумняваўся ў праўдзівасці Божых слоў аб Месіі? Бачым, што Ян не зразумеў да канца, кім ёсць Езус. Спадзеючыся, што Месія прыйдзе ў моцы прарока Іллі і абвесціць суд над няправеднымі, Хрысціцель выражаў спадзяванні ўсяго народа. Хрыстос, аднак, абвяшчае пачатак Божага Валадарства. Знакамі таго з'яўляюцца дзеянні Езуса, які прыйшоў не судзіць людзей, але збавіць.

Кожны пакліканы да таго, каб гэтыя знакі праяўляліся і ў нашым жыцці. Інакш кажучы, людзі павінны будаваць Нябеснае Валадарства на зямлі разам з Езусам.

*Кс. Павел Эйсмант*



## Слова рэдактара

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Малымі крокамі да Пана…

*"Бог стаў Чалавекам, каб чалавек стаў Богам". З мэтай добра перажыць гэтую праўду, унікнуць у яе, неабходна спыніцца, задумацца. Менавіта для гэтага служыць Адвэнт (ад лац. "adventus" – прыбыццё, прыход). Падчас яго мы, з аднаго боку, узгадваем першы прыход Езуса – нараджэнне ў хлеўчыку, а з другога – рыхтуемся да Яго паўторнага прыйсця ў канцы часоў, пасля якога, як гаворыцца ў Бібліі, Бог будзе ўсім ва ўсіх, і кожная сляза будзе выцерта.*

*Касцёл навучае, што Адвэнт – час радаснага чакання Хрыста, і адначасова заахвочвае ўсіх да адрачэння і нават пакуты. У Евангеллі на пачатак гэтага перыяду чуем: "Зважайце ж на сябе, каб сэрцы вашыя не былі абцяжараныя свавольным жыццём і п'янствам, і жыццёвымі клопатамі. (…) Таму чувайце і маліцеся ўвесь час" (Лк 21, 34–36).*

Чуванне і малітва – гэта суцішэнне і абвастрэнне пачуццяў, прыслухоўванне да сябе, іншага чалавека, Бога. Гэта таксама гатоўнасць да нечаканага, раптоўнага, таго, што павінна прыйсці. Аднак, каб чуванне было эфектыўным, неабходна сачыць не толькі за душой, але і за целам. Адсюль заахвочванне да посту. Неабавязкова ад ежы: у большай ступені ад таго, што нас знявольвае, робіць абцяжаранымі – фізічна, разумова і духоўна. Да таго ж кожнае свята больш раднае, калі рыхтуючыся ў чымсьці сабе адмаўляем. Перажываючы чарговы Адвэнт, трэба ўсвядоміць, чаго на самой справе не хапае нашаму чаканню, каб адчуць сапраўдную радасць і супакой. Можа, яно заглушана іншымі рэчамі?

Чытаючы Апостальскія пасланні св. Паўла, можна заўважыць, што першыя хрысціяне з радасцю чакалі паўторнага прыходу Хрыста. Поўныя надзеі, былі перакананыя, што гэта вось-вось здарыцца. Сёння ж, гледзячы на свет і сучасных хрысціян, нярэдка можа скласціся ўражанне, што ў іх жыцці ўвогуле не было чакання Жаніха. Яны не выходзілі Яму насустрач. Ніколі.

Гэтай надзеі чакання сёння ўсё часцей усім нам не хапае. Не стае перакананння, што сапраўды адбываецца штосьці значнае. Гаворка не аб эмоцыях. Св. Павел заахвочвае трываць у супакоі, сярод штодзённай працы, без нейкіх непатрэбных жэстаў, што робіцца толькі з-за знешніх прычын. Чакаць трэба пастаянна, з надзеяй і верай, прыняўшы ласку і прагненне, якое абуджае ў нашых сэрцах Езус.

**Дарагія Чытачы!**

Як веруючыя людзі мы павінны напаўняць сваё асяроддзе радасцю ад перакanання, што накіроўваемся на сустрэчу Таго, Які ёсць, быў і прыходзіць, каб завяршыць гісторыю свету. Да гэтага спаткання неабходна падрыхтавацца праз розныя адрачэнні і чаканне. Належыць паклапаціцца пра тое, каб нашыя сэрцы поўніліся любоўю да кожнага чалавека. Калі такой будзе пастава, то Адвэнт на самой справе стане часам радаснага чакання прыходу Хрыста: як у час свят Божага Нараджэння, так і ў апошні дзень.

У касцёлах падчас Адвэнту часта можна ўбачыць сімвалічную лесвіцу, па якой сыходзіць Пан Езус. Няхай яна адновіць у нас уменне чакаць і прыгадае, што больш упэўнена вядуць да мэты маленькія крокі. Вялікія – цяжка выканаць, яны хутка стамляюць. Малыя ж можа адолець кожны без задышкі і стомленасці. Выйдзем жа з радасцю насустрач нашаму Пану!

# Бог уваходзіць у свет

Хочам мы таго або не, спачатку глядзім на знешні бок рэчаіснасці, што стварае першыя ўражанні і меркаванні пра свет, іншых, сваё жыццё. Знешняе павінна ісці знутры. Не маскіраваць, але прыадкрываць праўду пра чалавека. Часам здараецца, што знешняя прыгажосць сапраўды адлюстроўвае ўнутраную. Але часцей усё ж адчуваем, што за дыхтоўнай яркай абалонкай крыецца нешта "не тое".

Канешне, можна лічыць, што з тваёго "фасада" яшчэ не асыпаецца тынкоўка. Але калі зазірнуць унутр? Пагадзіся, бывае боязна, што скрозь трэшчынкі на цябе гляне… пустка.

Перад святамі нашы дамы і дапраўды чысцеюць. Часта ад людзей можна пачуць: "А хто б маёй душой заняўся, пакуль я на працы ці, яшчэ лепей, сплю?". Не будзе так, бо гэта асабістая справа чалавека. Там, у тваёй схаванай глыбіні, тая кволасць, што баіцца застацца адна, без Бога. Там тое вялікае прагненне стаць чалавекам, якое не можа заставацца замкнёным і прыглушаным.

Дзверы нашых камор адчыняюцца цяжка. Таму Адвэнт пачынае кожны літургічны год і доўжыцца не адзін дзень, каб зноўку паўтарыць у пакорнай малітве: "Прыйдзі, о, Пане!". І Ён прыходзіць. Як да бедных, слабых, пакрыўджаных – з суцяшэннем і любоўю.

Падчас Божага Нараджэння мы павінны дасведчыць, як Хрыстос уваходзіць у нашыя сэрцы. Павінны? Можам, бо маем магчымасць. Калі толькі Каляды не зваляцца на галаву знянацку: "Як, ужо заўтра?", калі дазволім сабе на парозе Адвэнту "расклеіцца", размыць сляэьмі прыгожую абалонку, і запросім Бога ў гэты свой лямант, надломленасць, самоту, безабароннасць. Усё тое балючае ў нас, што так часта ў сваіх мэтах выкарыстоўвае д'ябал, насамрэч патрабуе Божай ласкі. Яна павінна ацаліць і пазбавіць ад уплываў злога духа. Але ці звяртаем мы на Бога свой позірк? Ці просім Яго аб ласцы?




**Набярэмся ж адвагі быць вернымі ў чаканні. Памалу, невялікімі крокамі адкрыемся на нованароджанага Хрыста. Збаўленне ўжо блізка. У цемры ночы загараюцца першыя зоркі…**

*Тэрэса Клімовіч*




# Малітва на Адвэнт

**Усемагутны Божа, забяры ад мяне ўсе высакамерныя думкі, жаданне ўласнай хвалы, зайздрасць, прагнасць, абжорства, ляноту і распуснасць, пачуццё гневу, жаданне помсты, хаценне няшчасця іншым або радасць з гэтай прычыны, адчуванне асалоды ад злосці і гневу бліжніх ці задавальнення ад абвінавачвання і зневажэння кагосьці няшчаснага і абяздоленага. Ва ўсіх маіх дзеяннях, словах і думках адары мяне, добры Божа, сэрцам пакорным, сціплым, ціхім, згодным, цярплівым, міласэрным, ласкавым, чулым і літасцівым, каб я спазнаў Святога Духа. Дай мне сапраўдную веру, моцную надзею і палымяную любоў. Такую любоў да Цябе, якая непараўнальна пераўзыходзіла б замілаванне да самога сябе. Каб не любіў нічога, што магло б Табе не спадабацца, а ўсё, што люблю, каб любіў у Табе.** *Амэн.*

# Як ствараюцца аплаткі?

● працяг са с. 1



Працэс выпечкі аплатак пачынаецца з таго, што сястра вылівае невялікія порцыі цеста, утвараючы на разагрэтых формах кшталт крыжа

Першыя “навагрудскія” аплаткі пачалі выпякацца яшчэ ў 30-х гадах мінулага стагоддзя. Шмат вады ўцякло з таго часу. Ручное замешванне цеста адышло ў нябыт. Замест цяжкіх жалезных шчыпцоў з’явіліся сучасныя машыны. Аднак нязменным застаўся смак вігілійных аплатак, паколькі яны і надалей выконваюцца паводле традыцыйнай рэцэптуры. ***“Яны робяцца з той жа субстанцыі, як і тыя, што ўжываюцца падчас св. Імшаў,*** – распавядае с. Іерамія Кулікоўская CSFN, якая раней працавала ў аплаткарні. ***– Гэта род хлеба, спечанага з белай, старанна прасеянай пшанічнай мукі і вады без выкарыстання дадаткаў і кансервантаў. Сёстры вырабляюць тысячы вялікіх і малых аплатак памерамі 10х18 ці 6х10 сантыметраў. Яны прыдатныя да ўжывання на працягу 12-ці месяцаў ад моманту прыгатавання”.***

Рэцэпт здаецца вельмі простым, але само выкананне прыгожага вігілійнага хлеба не такое ўжо і лёгкае. Трэба паклапаціцца пра тое, каб аплатка мела снежнабелы колер, не крышылася пры транспарціроўцы і ламанні. Таму праца ў аплаткарні патрабуе ўмення, адказнасці і вялікай стараннасці.

***“Раней сёстры ўзбівалі цеста рукамі. Цяпер для гэтага выкарыстоўваецца машына, якая нагадвае вялікі міксер,*** – гаворыць с. Іерамія. – ***У вялікі збан уліваецца вада, потым дадаецца адпаведная колькасць мукі – і вялікая мяшалка пачынае працу. Прыблізна праз паўгадзіны правяраецца цеста. Ідэальнае – павінна мець густату смятаны”.***

Затым цеста ўліваецца ў разагрэтую машынку. Лепш за ўсё пераліваць яго ствараючы на паверхні кшталт крыжа, бо тады ўсё раўнамерна расцячэцца. ***“Працэс выпякання дастаткова хуткі, таму трэба ўважліва за ім сачыць. Калі раскрыць шчыпцы зарана, аплатка будзе недапечанай, зморшчанай. А калі занадта позна – можа стаць пажоўклай ці ломкай,*** – падкрэслівае с. Іерамія. – ***Яшчэ трэба зняць лішкі цеста, якія з’явіліся на краях шчыпцоў пад уплывам ціску. Пазней мясцовыя людзі забіраюць іх і аддаюць хатнім жывёлам”.***

**У навагрудскай аплаткарні сясцёр назарэтанак праца кіпіць не толькі перад святамі Божага Нараджэння. Каб аплатка трапіла ў кожны дом, неабходна працаваць на працягу ўсяго года.**



Спачатку пякуцца вялікія аплаткавыя аркушы, якія затым разразаюць на меншыя часткі

Калі выпяканне скончана, трэба падняць ручку машыны. Тады на стальной пліце ўжо можна ўбачыць белы аплаткавы аркуш з разнастайнымі каляднымі матывамі: Святая Сям’я ў бэтлеемскім хлеўчыку, анёлы, схіленыя над малым Езусам і інш.

Затым адбываецца чарговы тэхналагічны працэс – увільгатненне. “***Сёстры клапоцяцца пра якасць аплатак, таму на некаторы час змяшчаюць іх ва ўвільгатняльную шафу. Дзякуючы гэтаму аплаткі становяцца эластычнымі і, калі надыдзе час іх разразаць, не пакрышацца і будуць мець ідэальна роўныя краі”,*** – падкрэслівае манахіня. Пасля ўвільгатнення аркуш трапляе пад вострую гільятыну, дзе з яго выразаюцца 4 вялікія ці 6 малых аплатак.



Выпяканне вігілійных аплатак у прыгожа выгравіраваных матрыцах запэўнівае ім арыгінальны выгляд

Апошні этап – пакаванне і высыланне аплатак у парафіі, дзе яны асвячаюцца ў першую нядзелю Адвэнту.

**Машынкі для выпякання аплатак прывезены ў Навагрудак з Польшчы ў 1990-х гг. На кожнай з іх адрозны святочны малюнак і надпіс “Wesołych Świąt” ці “Gloria In excelsis Deo”. Старыя прылады для выпякання аплатак сёння можна ўбачыць на спецыяльнай экспазіцыі ў Музеі сясцёр назарэтанак у Навагрудку.**

**Сёстры назарэтанкі з навагрудскай аплаткарні падкрэсліваюць, што стараюцца ўкласці ў працу ўсё сваё сэрца. Моляцца ў інтэнцыі сямей, у якія пазней трапіць вігілійны хлеб. Таму і мы, дзелячыся з блізкімі аплаткай за святочным сталом і складаючы адзін аднаму пажаданні, давайце падумаем пра сясцёр з Навагрудка, якія гэтую аплатку для нас прыгатавалі.**

Калісьці выпяканнем аплатак маглі займацца выключна манаскія супольнасці. Толькі ў XVII стагоддзі кожная парафія атрымала такое права. Дапамагалі і актыўныя свецкія вернікі. Напрыклад, у Беларусі ў савецкія часы арганісты, закрыстыяне і іх памочнікі рабілі аплаткі ў сваіх дамах, а потым раздавалі іх парафіянам. У той час прыладай для выпякання былі прамавугольныя цяжкія жалезныя шчыпцы, якія называлі “жалезамі” ці “жалезкамі”. На ўнутранай старане формы выбіваліся розныя знакі – рэлігійныя сімвалы. На шчыпцах адлюстроўваліся сцэны, звязаныя з Божым Нараджэннем: Дзіцятка Езус у ясельках, Маці Божую, Святога Юзафа і анёлаў, што адаруюць Немаўля, а таксама вала і асла, якія, згодна з легендай, таксама былі ў бэтлеемскім хляве. Паміж жалезнымі пласцінамі ўлівалі цеста, сціскалі шчыпцы і клалі іх у жар. Праз некалькі хвілін вымалі гатовую аплатку, аздобленую адціснутым узорам, і нажом выраўнівалі краі. Абрэзкі, што з’яўляліся такім чынам, былі вялікім прысмакам для дзяцей.

# Адкуль узяўся звычай ламацца аплаткай?



Традыцыя ламання аплаткай сягае каранямі ў першыя стагоддзі хрысціянства. Першапачаткова яна не была звязана з Божым Нараджэннем, а сімвалізавала духоўную камунію членаў супольнасці. З часам на вігілійную св. Імшу вернікі сталі прыносіць хлеб, якім пасля благаслаўлення дзяліліся. Яго забіралі дамоў для хворых ці тых, хто па розных прычынах не быў у касцёле, а таксама перасылалі родным і знаёмым. Гэтая практыка пачала знікаць у IX стагоддзі. Выпечка, форма якой прыгадвае сённяшнія аплаткі, з’явілася ў сярэднявеччы. Цікава, што аплаткі былі не толькі белыя, але і каляровыя. З іх рабілі святочныя аздобы.

Нельга дакладна акрэсліць, калі на нашых землях умацавалася традыцыя дзяліцца аплаткай у вігілійны вечар. Вядома, што гэты звычай прыйшоў да нас з Польшчы, дзе самае старэйшае пісьмовае ўпамінанне аб такой практыцы адносіцца да канца XVIII стагоддзя. Людзі верылі, што аплаткі забяспечаць дому дастатак і многа хлеба, што ўкінутыя ў студню крышынкі аплаткі ачысцяць ваду, а людзям гарантуюць здароўе. Часта вігілійным хлебам частавалі гаспадарчую жывёлу, лічачы, што да такога вялікага свята павінны “дакрануцца” ўсе стварэнні. Акрамя таго, аплаткай сімвалічна дзяліліся з душамі памерлых, кладучы яе на дадатковай талерцы на вігілійным стале.

***Кінга Красіцкая***

## Слова для жыцця

### *Папа Францішак*



*Трэба слухаць Божае слова і разумець, чаму яно вучыць. Адным з важных шляхоў, які дапамагае ў гэтым, з’яўляецца катэхізацыя. Дзякуючы ёй абвяшчэнне веры выходзіць нам насустрач у канкрэтнасці асабістага і калектыўнага жыцця. У той жа час, існуе іншы, таксама важны шлях. Ён заключаецца ў тым, каб, наколькі магчыма, жыць верай. Не будзем рабіць з яе абстрактную тэорыю, якая памнажае сумненні. Давайце імкнуцца практыкаваць веру ў служэнні братам, асабліва патрабуючым. Тады шматлікія формы сумненняў знікнуць, бо адчуем прысутнасць Бога і праўду Евангелля ў любові, якая без нашых заслуг жыве ўнутры, і якой дзелімся з іншымі.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 23.11.2016*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Перыяд Адвэнту хоць і не мае выразна пакутнага характару, з’яўляецца дасканалай нагодай, каб зазірнуць у глыбіню свайго сэрца і распачаць трывалую працу над сабой. Традыцыйна ў гэты перыяд мы адмаўляемся ад гучных забаў, каб больш часу прысвяціць малітве, чытанню Святога Пісання. Варта таксама зрабіць якіясьці адвэнтавыя пастановы, што дапамогуць у паглыбленні духоўнага жыцця. Не будзем забываць і аб патрэбе прыступіць у Адвэнце да сакраманту пакаяння і паяднання, каб у стане асвячальнай ласкі, з чыстым, аднаўленым сэрцам перажыць радасць свят Божага Нараджэння.*

*Фрагмент пастырскага ліста на Адвэнт 2016 года*

### *Кс. бп Юзаф Станеўскі*



*Святая Цэцылія, панна і мучаніца, з’яўляецца адной з самых вядомых і папулярных святых у Касцёле. Яна не была проста слухачом слоў Праўды – на Евангеллі і Хрысце будавала ўласны дом. Арышт, спачуванне салдат, слёзы бацькоў і сяброў, гвалтоўны гнеў намесніка ўдарылі ў гэты дом, але ён не паваліўся, бо цвёрда стаяў на скале веры. Суддзі, які падгаворваў яе адрачыся ад Езуса, адказала: “Я пакідаю дом, збудаваны чалавечай рукой, каб назаўсёды пасяліцца ў палацы майго Абранніка, Хрыста”. Верыла, што каты яе не заб’юць, а толькі “тленную маладосць заменяць вечнай маладосцю” ў Нябесным Валадарстве.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай ва ўспамін св. Цэцыліі, 22.11.2016*




◆ *Папа Францішак даў магчымасць усім святарам адпускаць грэх аборту. Тым самым Пантыфік працягнуў дазвол, які дзейнічаў на працягу Года Міласэрнасці. Ён паведаміў пра гэта ў Апостальскім лісце “Misericordia et Misera” (“Міласэрнасць і няшчасная”) з нагоды завяршэння Юбілею. У ім Святы Айцец падкрэсліў, што “аборт – гэта цяжкі грэх, паколькі абрывае нявіннае жыццё; аднак няма ніводнага граху, якога нельга было б ахапіць і знішчыць Божай міласэрнасцю”. Таму святары павінны стаць “правадырамі, умацаваннем і радасцю” для людзей, якія шкадуюць за зробленае і шукаюць шляху спалучэння з Айцом.*

◆ *У Касцёле будзе ўстаноўлены Сусветны дзень бедных. Датай абрана 33-я нядзеля звычайнага перыяду, перадапошняя ў літургічным годзе, якая папярэднічае святу Езуса Хрыста, Валадара Сусвету. Як падкрэсліў Пантыфік, “гэта павінна стаць годнай падрыхтоўкай да перажывання ўрачыстасці Пана, які атаясамліваў сябе з самымі мізэрнымі”. Дагэтуль у Касцёле не было такой падзеі ў календары ініцыятыў, якая б непасрэдным чынам адносілася да клопату пра ўбогіх.*

◆ *Пантыфік пакінуў адкрытымі Святыя дзверы ў санктуарыі Бога Айца Міласэрнага ў Запарожжы (Украіна). Пакуль што гэтая падзея бестэрміновая. Рашэнне Апостальскай Сталіцы перадаў вернікам нунцый ва Украіне абп Клаўдыа Гуджэроці. Падчас нядаўняй сумеснай сустрэчы са сваім пасланнікам Святы Айцец зазначыў, што гэтая краіна займае ў яго сэрцы асаблівае месца. Папа штодня моліцца за яе прагрэс і суцяшэнне для патрабуючых.*

◆ *У апольскую курыю (Польшча) былі перададзены лісты падтрымкі, каб распачаць беатыфікацыйны працэс біскупа Юзафа Натана, заснавальніка “Мястэчка міласэрнасці” ў Браніцах. Больш за 10 000 чалавек выказаліся ў падтрымку ідэі. Ініцыятары прызналі, што святар “насуперак неспрыяльным сацыяльным, эканамічным і палітычным умовам рэалізваў сваё пакліканне, несучы духоўную, медыцынскую і матэрыяльную дапамогу даручанаму яго апецы люду, а асабліва тым, кім больш за ўсё пагарджалі і каго адштурхоўвалі”. Біскуп адышоў у жыццё вечнае 8 лістапада 2014 года.*

◆ *Ужо ў 30-ты раз загарэўся Бэтлеемскі агонь супакою. Як і ў мінулых гадах, агонь ад алейнай лямпы, якая вісіць у Гроце над срэбнай зоркай, што азначае месца нараджэння Езуса, запаліў праваслаўны манах. Затым яго перанеслі ў суседнюю з Бэтлеемам каталіцкую парафію ў Бэйт-Сахур, а потым даставілі ў Аўстрыю. Адтуль Бэтлеемскі агонь супакою трапіць у больш за 30 еўрапейскіх краін, а таксама на амерыканскі кантынент. Перадача яго дэлегацыям скаўтаў з розных краін адбудзецца ў рамках экуменічнага набажэнства ў Вене 10 снежня.*

*niedziela.pl; credo-ua.org*

***Ангеліна Пакачайла***

# ЦВЯРОЗЫЯ ЦЕЛАМ І ДУШОЙ

**Алкаголь, наркотыкі, азартныя гульні... Трапіўшы ў пастку, чалавек рана ці позна пачынае шукаць выхад. А ён адзін – пастаянна змагацца са спакусай. У Гродзенскай дыяцэзіі дзейнічае адзінае ў Беларусі душпастырства цвярозасці, якое апекуецца залежнымі людзьмі. Яго мэта – дапамагчы ім прыйсці або вярнуцца да Бога, якога “прыбралі” са свайго жыцця, бо нібы замінаў жыць так, як хацелася. Цяпер жа Ён – адзінае іх выратаванне.**



*Сустрэчы аб’ядноўваюць членаў душпастырства, надаюць сілы і ўпэўненасць у сабе*

## ПЕРАДУСІМ, ЦВЯРОЗАСЦЬ ДУШЫ

Душпастырства цвярозасці Гродзенскай дыяцэзіі існуе з 2002 года. Дэкрэтам кс. біскупа Аляксандра Кашкевіча яго душпастырам быў прызначаны кс. Аляксандр Пятровіч. Пасля яму дапамагаў а. Андрэй Урублеўскі, кс. Мікалай Ціхановіч... А распачаў працу з залежнымі людзьмі яшчэ ў канцы 1990-х гадоў кс. Марыюш Ільяшэвіч, які арганізаваў першыя ў Беларусі рэкалекцыі цвярозасці ў лаздунскай парафіі, дзе быў пробашчам (Іўеўскі дэканат). Як успамінаюць сведкі тых падзей, мясцовыя жыхары закрывалі дамы, хавалі каштоўныя рэчы, калі пачулі, што прыедуць ананімныя алкаголікі. Не разумелі... Ды і самі ўдзельнікі не да канца ўсведамлялі, навошта яны збіраюцца і для чаго ўсё гэта патрэбна. Па прыездзе пілі каву, размаўлялі. А касцёл... Гэта абавязкова?

Паступова цікавасць з двух бакоў наспявала. Вясной 2001 года адбыліся першыя ўсебеларускія рэкалекцыі ў Баранавічах (і трэція падобныя ў Беларусі). Цяпер яны арганізоўваюцца 2 разы на год. Затым – рэкалекцыі ў Браславе, якія праводзяцца з лета 2002 года. ***“Гэта незвычайны час,*** – распавядае Пётр. – ***Мы ставім палаткі, разводзім вогнішча. Нішто лішняе не адцягвае ўвагу. Прадстаўляецца цудоўная магчымасць засяродзіцца на сваім унутраным стане. Становішся больш адкрытым на бліжняга, заўважаеш яго патрэбы. А яшчэ гэта добрая нагода, каб адпачыць на ўлонні прыроды”.*** Некалькі гадоў запар арганізатары ладзяць спаборніцтвы па валейболе, запрашаюць бардаў і рок-музыкантаў, якія прыязджаюць у Браслаў на фестываль.

Дзякуючы кс. Яраславу Грынашкевічу, рэкалекцыі цвярозасці наладжаны і ў Гродне. ***“Гэта ён быў ініцыятарам іх праўдзення,*** – успамінае Юрый Гапонік, адказны за душпастырства цвярозасці ў Гродзенскай дыяцэзіі. – ***Неяк цікавіўся ў мяне пра рэкалекцыі ў Баранавічах. У размове высветлілася, што жадаючых прыехаць на іх нашмат больш, чым саміх удзельнікаў. Святар падумаў і сказаў: «З прадуктамі харчавання “Карытас” дапаможа?! Сёстры назарэтанкі абед прыгатуюць?! Людзей на начлегі возьмеце?! Што яшчэ патрэбна? Дык уставай і пачынай дзейнічаць»”.*** У мінулыя выхадныя рэкалекцыі цвярозасці ў Гродне прайшлі ўжо ў 14-ты раз. ***“Планавалася, што сустрэчы будуць адбывацца на дыяцэзіяльным узроўні,*** – заўважае Юрый. – ***Але ўжо з самага пачатку яны атрымаліся ўсебеларускімі, а потым – і міжнароднымі. Штогод на іх прыязджаюць літоўцы, расіяне, палякі”.***

## ЦЕЛА ЛЯЧЫЦЬ ЛЯГЧЭЙ, ЧЫМ ДУШУ

Праграма кожных рэкалекцый нязменная: прывітанне, св. Імша на ўрачыстае адкрыццё, адкрытыя і закрытыя сходы, канферэнцыя, якую прамаўляе святар, Крыжовы шлях для залежных людзей і іх сем’яў, падрыхтоўка да сакраманту пакаяння, споведзь, св. Імша на заканчэнне, абмен уражаннямі і падвядзенне вынікаў. ***“Калі бачым, што чалавек прыехаў упершыню, удзяляем яму асаблівую ўвагу,*** – падкрэслівае Юрый. – ***Увогуле, рэкалекцыі праходзяць у цёплай, дамашняй атмасферы. І людзі тут іншыя... Як гаварыў Марк Твэн, «моцны не той, хто не ўпаў, а хто, упаўшы, змог падняцца». Чалавек, які здолеў устаць з гразі, зусім па-іншаму і да Бога адносіцца, шануе тое, што мае ў жыцці. Ведаю сотні прыкладаў, калі далёкія ад веры людзі дзякуючы рэкалекцыям пачыналі маліцца. У нас ёсць удзельнікі, якія ў 30 гадоў хрысціліся. Шлюбы былі...”.***

У мінулым годзе ўзнікла ідэя арганізаваць рэкалекцыі цвярозасці для сямей з аднаўленнем сужэнскіх абяцанняў. Яны ўпершыню адбыліся пад Браславам. ***“Прыязджала псіхатэрапеўт з Польшчы,*** – распавядае Тэрэса. – ***Дзякуючы ёй я стала лепш разумець мужа, чаму ён паступае менавіта так, ане інакш. Ніколі не задумвалася, як можна змяніць сябе, сваё жыццё. А тут столькі падказак! Стала лягчэй дыхаць, я даверылася Богу. І хоць паходжу з рэлігійнай сям’і, пачала глыбока разважаць над сутнасцю веры толькі на рэкалекцыях. Памятаю, як жыла ад адных духоўных практыкаванняў да другіх. Цяпер эйфарыя прайшла, сэрца суцішылася. Але я не менш жадаю наступнай нагоды аднавіць душу”.*** У бягучым годзе рэкалекцыі для сямей паўтарыліся, так як ідэя была з задавальненнем падтрымана ўдзельнікамі.

***“Трэба разумець, што залежнасць ад алкаголю або наркотыкаў – хвароба невылечная,*** – заўважае Юрый. – ***Няма выздараўлення, ёсць выздараўліванне. Гэта хвароба цела, розуму і душы. Лягчэй за ўсё лячыць цела, цяжэй – розум, і вельмі цяжка – душу. На рэкалекцыях мы лечым душу. А паколькі канчатковага выніку не існуе, людзі, разумеючы, што маюць патрэбу ў пастаяннай падтрымцы, прыходзяць сюды і застаюцца”.***

## СВЕДЧЫЦЬ, КАБ ПАПЯРЭДЗІЦЬ ІНШЫХ

Раней сустрэчы членаў супольнасці адбываліся рэгулярна ў кожную 3-ю нядзелю месяца. У пабрыгіцкім касцёле была св. Імша, а затым – канферэнцыя. Зараз удзельнікі падтрымліваюць сувязь паміж сабой праз тэлефон і інтэрнэт. Раз на 2-3 месяцы адбываюцца чарговыя рэкалекцыі, якія з’яўляюцца нагодай, каб сустрэцца.

Ужо на працягу 12 гадоў у Лідзе ладзяцца калядныя спатканні для членаў душпастырства. Па традыцыі яны адбываюцца ў першыя выхадныя пасля праваслаўнага Божага Нараджэння. У суботу арганізоўваецца культурна-забаўляльная праграма, а ў нядзелю – св. Імша ў інтэнцыі цвярозасці нашага народа і сустрэча са святаром.

Некаторыя пробашчы падчас Адвэнту або Вялікага посту запрашаюць удзельнікаў душпастырства ў свае парафіі. Тыя прыязджаюць, каб даць сведчанне выздараўлівання. ***“Цяпер такія спатканні праходзяць радзей,*** – распавядае Юрый. – ***Шмат ездзілі напачатку, з кс. Марыюшам. Па яго просьбе падхапляліся і імчалі то ў Лаздуны, то ў Астравец ці Іўе... За гэты час былі з такой місіяй не толькі ў Гродзенскай дыяцэзіі, але і ў Віцебскай, Пінскай, а таксама ў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Мы заўсёды адкрытыя на прапановы”.***

## ПЕРШЫ КРОК – ПРЫЗНАЦЬ СВАЁ БЯССІЛЛЕ

У душпастырстве каля 50-60 актыўных удзельнікаў. Крыху больш жанчын. Сярэдні ўзрост – 40-50 гадоў. У асноўным, гэта самі залежныя асобы або іх родныя. Аднак большасць членаў супольнасці – сямейныя пары, дзе адзін з сужэнцаў падтрымлівае другога. У склад душпастырства неабавязкова ўваходзяць людзі, якія маюць праблемы. Далучаюцца неабыякавыя да пытанняў алкагалізму і наркаманіі або тыя, хто хоча жыць у цвярозасці.

***“Важна разумець, што залежнасць з’яўляецца хваробай,*** – падкрэслівае Юрый. – ***Гэты факт прызнаны яшчэ ў другой палове мінулага стагоддзя. На жаль, наша грамадства да сённяшняга дня лічыць, што залежныя людзі маюць слабы характар, не могуць узяць сябе ў рукі, і з-за таго негатыўна ставіцца да іх або ўвогуле адварочваецца. Самае цяжкае для трапіўшых у бяду – зрабіць першы крок. Прызнаць сваё бяссілле перад алкаголем і тое, што самакантроль страчаны. Усвядоміць гэтую праўду і звярнуцца за дапамогай. Далей – лягчэй. Чалавек бачыць, што ён не адзін, побач людзі з такой жа праблемай. Адчувае з іх боку разуменне, падтрымку. Усяго гэтага можна не атрымаць нават ад блізкіх. У душпастырстве ніхто не вучыць, як трэба жыць. Удзельнікі дзеляцца вопытам, знаходзячыся на адной прыступцы з пакутуючым”.***

*Ангеліна Пакачайла*

# ЗАПІСКІ АЛКАГОЛІКА




### Дзень першы

Прыехаў у цэнтр. Трохі неспакойна... Размаўляў з доктарам. Пазнаёміўся з групай. Пра сябе распавядаў. Больш слухаў, чым гаварыў... Пакуль што збіраюся з думкамі. Няпроста...

### Дзень другі

Раніцай здаваў кроў. Хвалююся ў чаканні рэзультатаў... На сустрэчы з валанцёрам зразумеў, колькі брыдоты можна ўчыніць з-за ўжывання алкаголю... Патэлефанаваў жонцы. Паразмаўлялі, спытаў пра сыноў. Сумую...

### Дзень трэці

Прачнуўся з думкай: “Як прыемна пачынаць дзень у цвярозым стане”... Глядзелі з групай фільм “Чысты і цвярозы”. Адзначыў, што кінастужка з’яўляецца для мяне наглядным дапаможнікам, прыкладам, як жыць далей.

### Дзень чацвёрты

Пачаў чытаць кнігу “Ананімныя алкаголікі”. З некаторымі момантамі разабраўся. Раблю высновы... Тэлэфанаваў бацькам. Прыемна чуць іх словы падтрымкі. На душы неяк спакойна...

### Дзень пяты

Сёння нядзеля. Устаў раней і памаліўся... Увечары прыязджала жонка з дзецьмі і цешча. Размаўлялі. Пабавіўся з малодшым сынам. Як жа прыемна, калі да цябе адносяцца як да Чалавека...

### Дзень шосты

Падзякаваў Богу за новы дзень... На занятках хадзілі з заплюшчанымі вачыма праз лабірынт. Побач быў чалавек, які трымаў за руку. Дзіўнае адчуванне: не бачыш таго, хто табе дапамагае, але ясна адчуваеш




*Падчас пахавання людзі часта завешваюць люстэркі, кладуць хлеб на стале каля крыжа. Калі выносяць цела, пераварочваюць лавы і табурэткі, на якіх стаяла труна, сыплюць зерне, лічаць кветкі, каб была парная колькасць... Чыняць розныя непатрэбныя рэчы замест таго, каб засяродзіцца на малітве і рахунку сумлення. Раскажыце, калі ласка, у газеце, якіх звычаяў з няведання прытрымліваюцца хрысціяне і як трэба правільна праводзіць абрад пахавання.*

*Немчыновіч Ганна, г. Свіслач*

*На гэтыя і іншыя пытанні адказвае кс. Юрый Медушэўскі, пробашч парафіі свсв. апап. Пятра і Паўла ў в. Мядзведзічы (Пінская дыяцэзія).*

**Ці даводзілася Вам сутыкацца ў душпастырскай практыцы з людскімі забабонамі падчас пахавання? Раскажыце, як рэагавалі на такія сітуацыі.**

Сутыкаюся з забабонамі амаль што на кожным пахаванні. І што цікава: людзі ўпэўніваюць сябе, што прытрымліваюцца старажытнай традыцыі, якую павінны свята захоўваць, бо інакш згубяць самасвядомасць. На такое перакананне я маю толькі адно пытанне: а што наконт хрысціянскай самасвядомасці? Святое Пісанне нам канкрэтна гаворыць: дзе скарб твой, там і сэрца тваё. Калі ставім Хрыста на другое месца, то чаму пасля патрабуем захавання Яго абяцання аб збаўленні? Часцей за ўсё стараюся падобнымі словамі заахвоціць людзей да малітоўнай падтрымкі душы памерлага. Спрабую папярэдзіць выкананне забабонаў: калі прыходжу ў дом, дзе знаходзіцца памерлы, тлумачу, што за чым будзе адбывацца. Тады людзі не мітусяцца, а засяроджваюцца на малітве.

**Напэўна, распаўсюджванню забабонаў спрыяюць асаблівасці псіхікі чалавека...**

Аднойчы паехаў з манаскай сястрой на пахаванне. Яна ўзяла з сабою слоічак з асвечанай вадою, бо не было малога крапідла. Прыехалі на могілкі, памаліліся. Бачу, што сястра хоча выліць рэшту вады ў магілу. Я асцярожна яе стрымаў, папрасіў выліць ваду пад дрэва. Пасля растлумачыў, што людзі звярнулі б увагу на гэты жэст і надалі яму глыбокі сэнс. Магла нарадзіцца новая традыцыя. І ніхто б пасля не ўспомніў, адкуль яна пайшла.

**Адзін з самых старажытных звычаяў – завешваць люстэркі ў доме, дзе знаходзіцца памерлы. Вядома, у яго не хрысціянскія карані?**

Калі не памыляюся, нежывое цела чалавека выдзяляе фосфар, а люстэрка яго ўпітвае. І калі не закрыць люстэрка, то пазней сілуэт памерлага можа ў ім адбіцца. Справа тыпічна хімічная. А людзі прыдумваюць, што гэта памерлы прыходзіць, бо хоча яшчэ затрымацца побач з імі.

**Страшна падумаць, але большасць павер'яў заснаваны на... эгаізме чалавека. Нават у хвіліны смерці бліжняга людзі думаюць пра сябе: "як выправадзіць смерць з хаты", "не наклікаць бяды"... Менавіта таму многія баяцца азірацца, ідучы ў пахавальнай працэсіі, ставяць у хаце шклянку з вадой, накрываючы лустай хлеба, пераварочваюць лаўкі ці стол, дзе стаяла труна, каб ніхто ў гэтым годзе не памёр.**

Так, сапраўды, перад абліччам смерці, калі няма даверу да Бога, выходзіць і страх, і бунт адначасна Провіду. Таму чалавек не згаджаецца са смерцю блізкіх і абураецца на Усявышняга, а часам і блюзнерыць. І атрымліваецца, што смерць блізкага чалавека, якая павінна ўзмацняць нашу веру, наадварот, забівае яе. Здаралася мне хаваць людзей у глыбокарэлігійных сем'ях, дзе ў момант пахавання ніхто не галасіў, прыгаворваючы: "А чаго ты туды ідзеш?", "А чаму ты не ўстаеш?" і да т. п. У іх малітвах адчувалася ўдзячнасць Богу за дар жыцця і збаўлення. Дарэчы, успамінаю суседа, які ў маладосці ў касцёл асабліва не хадзіў, не кажучы ўжо пра сакраментальнае жыццё. Але менавіта смерць дзядулі, якога вельмі моцна любіў, прывяла яго ў касцёл, прымусіла задумацца над сваім жыццём і кардынальна змяніць яго ў лепшы бок. Сёння ён святар.

**Часам людзі робяць некаторыя сімвалічныя жэсты, не разумеючы іх сапраўднага значэння. Вось, напрыклад, вочы закрываюць з боязі, каб нябожчык "не ўглядаўся, каго забраць з сабой". На самой жа справе, хрысціяне робяць гэта, прыпадабняючы памерлага да спячага. Бо, згодна Біблії, чакаецца другое прыйсце Хрыста, калі ўсе памерлыя абудзяцца.**

Тое ж адбываецца і з сімвалічным жэстам кідання зямлі на труну падчас развітання. Некаторыя лічаць, што тым самым засцерагаюць сябе ад нябожчыка: каб не прыходзіў і не палохаў. А на самой справе? Святар кідае зямлю на труну і прамаўляе словы: "Памятай, што ты з пылу паўстаў, і ў пыл вернешся". Так і вернікі, кідаючы жменю зямлі, павінны прыпамінаць сабе гэтую праўду.

**На пахаванні можна назіраць за тым, як моцна людзі прывязаны да матэрыяльнага свету. Некаторыя кладуць у труну асабістыя рэчы памерлага...**

Часам даходзіць да камічных сітуацый. Адзін вартаўнік распавядаў, што некалькі сутак чуў на могілках музыку. Вядома, быў моцна напалоханы. Як пазней высветлілася, родныя паклалі ў труну магнітафон, які любіў памерлы, і ён граў, пакуль не селі батарэйкі... Аднойчы назіраў, як у труну клалі грошы. Хацелася ў такой сітуацыі спытаць, што па чым у небе можна набыць.




**Што, згодна хрысціянскаму звычаю, павінна быць у труне?**

У асяроддзі, дзе я служу, заўсёды даюць у рукі ружанец. Думаю, гэтага больш чым дастаткова.

**У выпадку крэмацыі святыя рэчы спальваюцца разам з целам?**

Так, асвечаныя рэчы выкідаць нельга, таму іх спальванне – натуральная справа.

**А ці трэба на пахаванні прысутнічаць дзецям? Раней гэта было распаўсюджанай практыкай.**

Пытанне даволі асабістае. Трэба звярнуць увагу, наколькі дзіця падрыхтавана. Важна расказаць яму, што адбываецца. Некаторыя дарослыя замест таго, каб растлумачыць сэнс хрысціянскай веры, палохаюць дзяцей памерлымі: нібы калі тыя не будуць слухацца, то нябожчыкі па іх прыйдуць. І тады, вядома, дзіця будзе пазбягаць пахавання, расцэньваць яго як выключна негатыўны момант у жыцці чалавека. А пры нармальным падыходзе і добрым тлумачэнні прысутнасць дзіцяці на пахаванні – гэта пераказ веры.

**З якой мэтай ладзяцца памінкі? Як яны павінны праходзіць?**

Памінкі праводзяць для таго, каб сям'я магла сабрацца разам. Бо вядома, на штодзень усе бегаюць, мітусяцца. Пахаванне – гэта момант прыпынку і супакою, якія, між іншым, спрыяюць аб'яднанню сям'і. Ведаю адну вёску, дзе ўжо стала традыцыяй правядзенне памінак без алкаголю. І хоць раней усе ёй супраціўляліся, зараз падтрымліваюць і радуюцца, што трываюць у духу добрай памяці аб памерлым, не пераўтвараючы пахавання ў вяселле.

**І што атрымліваецца? Большасць пахавальных звычаяў – гэта забабоны, назапашаныя чалавецтвам на працягу стагоддзяў?**

Відаць, што так. Варта памятаць: адзінае, чаго ад нас патрабуе памерлы на шляху да неба, – малітоўная падтрымка, і толькі.

***Ангеліна Пакачайла***

---

яго падтрымку... Праводзілі Сашу і Валеру. Уявіў сваю выпіску. Зрабілася сумна... Праслязіўся, калі ўспомніў сыночка. Падумаў пра сваю безадказнасць адносна яго і магчымыя наступствы. Закалаціла ўсяго, хацелася плакаць. Курыў, у думках сябе супакойваў...

### Дзень сёмы

Прачнуўся з думкай, што выдатна спаў без таблетак. Раніцай трохі балелі мышцы. Пачаў рабіць практыкаванні... На занятках шмат дыскутую з настаўнікамі. Жадаю цалкам унікнуць у сваю праблему. Абмяркоўваем падказкі для майго выздараўлення.

### Дзень восьмы

Як жа добра прачынацца са светлай галавой!.. На занятак прыходзіў ксёндз. Даволі прыемны чалавек. Адразу выклікаў прыхільнасць да сябе: адкрыты, начытаны. Група літаральна "засыпала" яго пытаннямі. З задавальненнем на іх адказваў. Было здорава.

### Дзень дзявяты

Сёння на занятку зразумеў, што ў мяне ёсць толькі два шляхі: або жыццё ў цвярозасці, або могілкі. І адзін я не змагу паправіцца, патрэбна падтрымка... Гулялі ў іншапланецян. Спрабавалі зразумець адзін аднаго без слоў. Шмат смяяліся. Адназначна, карцінка складваецца не цалкам, калі суразмоўца нешматслоўны.

### Дзень дзясяты

Характарызавалі на занятках алкаголіка. Я самы сапраўдны алкаголік... Займаліся па тэме "Механізмы залежнага рэгулявання пачуццяў". Мне яшчэ працаваць і працаваць у гэтым кірунку... Патэлефанаваў бацькам і жонцы. Распавёў пра сход для сваякоў. Ім гэта павінна быць карысна. Ды і мне... Перад сном аналізую дзень і прыходжу да высновы, што ніколі так маральна не стамляўся, хоць і праца мая звязана з разумовай дзейнасцю.

### Дзень адзінаццаты

Злавіў сябе на думцы, што хачу прызвычаіцца рабіць зарадку кожную раніцу... На занятках абмяркоўвалі тэму "Алкагалізм – хвароба адмаўлення". Пазнаў сябе... У групу для родных залежных асоб прыходзіла мама. Пасля пагаварылі. Яна сказала, што пра пачутае ўжо шмат чытала. Я ў шоку!

### Дзень дванаццаты

Сёння па заданні прыдумвалі казку. У канцы гісторыі мае героі перасталі займацца глупствам і ўсталі на правільны шлях... Жонка прыходзіла. Стомленая, трохі раздражнёная з-за працы. Казала, што нічога не паспявае. Так шкада яе стала! Вельмі хачу, каб любая была спакойнай.

### Дзень трынаццаты

Усё пра жонку думкі не адпускаюць... На занятках склалася ўражанне, што алкагалізм – разумная істота ўнутры мяне. Карацей, нячысты. Яго нельга выгнаць, толькі супакоіць. І смірным ён будзе, пакуль я працую над сабой. Як толькі дам слабіну або ўва мне прачнецца гардыня, пачне працаваць ён... Дзякуй, Божа, за яшчэ адзін дзень у цвярозасці.

### Дзень чатырнаццаты

Зарадка памалу ўваходзіць у звычку. Спадзяюся, гэта стане нормай... Праводзілі дзяўчат з групы. Наташка нейкая няўпэўненая. Гэта будзе ёй перашкаджаць у выздараўліванні. А вось Віка, наадварот, сур'ёзная, накіраваная... Тэлефанаваў жонцы. Не адказала. Раззлаваўся: дома ж, чаму трубку не бярэ?!

***Працяг у наступным нумары.***

*Падрыхтавала*
*Ангеліна Пакачайла*

---




Catholic.by

### *Папа Францішак зацвердзіў тэму Сусветных дзён моладзі*

***Гэта будуць словы Найсвяцейшай Панны Марыі з Евангелля паводле Лукі: "Вось я, слуга Пана. Няхай мне станецца паводле твайго слова" (Лк 1, 38).***

*Падрыхтоўка да сусветнага спаткання маладых людзей, што пройдзе ў Панаме ў 2019 годзе, ужо распачалася. Вядома, што часам правядзення форуму будзе не лета, а студзень, люты або сакавік, так як у звычайную для яго арганізацыі пару ў краіне сезон дажджоў.*

*Акрамя таго, Пантыфікам зацверджаны тэмы Дзён моладзі, якія ў бліжэйшыя два гады будуць адзначацца на дыяцэзіяльным узроўні. Яны таксама прысвечаны Марыі.*




### *Падтрымаць дабрачынныя ініцыятывы можна ў інтэрнэце*

***Цяпер ахвяраванні, якія будуць накіраваны Пантыфікам на рэалізацыю канкрэтных спраў міласэрнасці, можна рабіць з дапамогай адмысловага сайта obolodisanpietro.va, які быў створаны ў Ватыкане.***

*Назва рэсурса нагадвае пра традыцыйны збор ахвяраванняў, вядомы як "Грош св. Пятра" (штогод праходзіць ва ўрачыстасць свсв. апап. Пятра і Паўла). Акрамя прапанаванай магчымасці пэўным чынам удзельнічаць у ініцыятывах міласэрнасці Святога Айца, на сайце можна пазнаёміцца з некаторымі дабрачыннымі праектамі Святога Пасаду і прамовамі Папы на тэму міласэрнасці.*




### *Польшча прыняла Хрыста Валадаром і Панам*

***На ўрачыстасці прысутнічалі біскупы, святары, кансэкраваныя і свецкія асобы, у тым ліку прадстаўнікі ўлады на чале з прэзідэнтам Анджэем Дудам.***

*"Юбілейны акт прыняцця Езуса Хрыста Валадаром і Панам – Вялікая хартыя свядомасці, пастаў і дзеяння для ўсіх палякаў, якія вызнаюць Хрыста", – сказаў кардынал Станіслаў Дзівіш у слове, што папярэджвала публічную пракламацыю акту. Іерарх падкрэсліў, што цяпер перад кожным стаіць заданне, каб Евангелле ўплывала на асабістае жыццё, на кожны фундаментальны і штодзённы выбар.*

***Кінга Красіцкая***

## Моладзь з Навагрудка далучылася да "Руху чыстых сэрцаў"

*Падчас урачыстасці ў касцёле св. Міхала Арханёла маладыя людзі склалі абяцанні весці цнатлівае жыццё да шлюбу.*



У прысутнасці парафіяльнай супольнасці моладзь сцвердзіла, што сапраўдную, верную, чыстую любоў варта чакаць. Сваіх будучых мужоў, жонак і дзяцей яны даверылі Богу. Выказалі жаданне прапаведаваць у сваім асяроддзі чысціню ўзаемаадносін паміж мужчынам і жанчынай, "нягледзячы на стэрэатыпы, якія склаліся ў сучасным грамадстве".

Пасля абраду абяцанняў бацькі і родныя кандыдатаў надзелі сваім дзецям на безыменны палец правай рукі пярсцёнак з надпісам на англійскай мове "сапраўдная любоў чакае". Па традыцыі ён будзе заменены на іншы ў момант заключэння сакраментальнага сужэнства.

## Шосты музычны фестываль "Цэцылiяда" адбыўся ў Смаргоні

*Мерапрыемства сабрала шмат дзяцей, моладзі і дарослых, якія прагнулі падзяліцца сваімі здольнасцямі, знайсці новых сяброў, духоўна ўзбагаціцца, а галоўнае – падзякаваць і праславіць Нябеснага Айца сваімі талентамі.*



Святочны фестываль адкрыў дзіцячы хор з парафіі св. Міхала Арханёла пад кіраўніцтвам с. Веранікі Блізнюк FMA. Затым на сцэне выступалі мясцовыя вернікі і калектывы з усяго горада: вучні музычнай школы ім. Клеафаса Агінскага, фальклорны народны ансамбль "Гулянок". Малодшыя ўдзельнікі "Савіо-клуба" паказалі цікавы танец, а старэйшыя – заспявалі. Дэбютаваў на "Цэцыліядзе-2016" парафіяльны маладзевы рок-гурт "Пілігрымы".

## Пасяджэнне Калегіі кансультараў і Святарскай рады прайшло ў Гродне

*Галоўным вынікам сустрэчы стала зацвярджэнне першага ў гісторыі Касцёла на Гродзеншчыне сіноду. Ён прадугледжвае супольныя сходы біскупаў, святароў, манаскіх асоб і свецкіх вернікаў, якія павінны спрыяць плённай дзейнасці і развіццю дыяцэзіяльнага Касцёла.*



Падрыхтоўка неабходнай інфармацыі і скліканне падрыхтоўчай камісіі па справах дыяцэзіяльнага сіноду былі даручаны генеральнаму вікарыю, біскупу Юзафу Станеўскаму.

На пасяджэнні была абмеркавана магчымасць стварэння ў кожным дэканаце дыяцэзіі аддзялення дабрачыннага таварыства "Карытас" і прыватных рэлігійных таварыстваў. Таксама ўдзельнікі пасяджэння прынялі рашэнне з нагоды набліжэння 100-годдзя абяўленняў Маці Божай у Фаціме правесці дыяцэзіяльную перэгрынацыю Яе фігуры. Падзея адбудзецца з 13 мая па 13 кастрычніка 2017 года.

## Біскуп Аляксандр Кашкевіч здзейсніў кананічную візітацыю парафіі Суботнікі

*Іерарх наведаў касцёл у Суботніках, капліцу ў Жамыслаўлі, а таксама сустрэўся з вернікамі Васілевічаў і Кудзёшаў, якія кожную нядзелю збіраюцца на св. Імшу ў капліцах, створаных на месцы былых клубаў.*



У касцёле св. Уладзіслава ў Суботніках біскуп узначаліў св. Імшу. Падчас гаміліі іерарх заклікаў вернікаў цалкам давярыцца Божай міласэрнасці, каб пасля свайго зямнога жыцця кожны мог пачуць словы Езуса: "Будзеш са мною ў раі". Пасля Эўхарыстыі ардынарый сустрэўся з касцёльным камітэтам, членамі ружанцовых колаў і Францішканскага ордэна свецкіх, суполкай сем'яў "Equipes Notre Dame" і настаўнікамі мясцовай школы.

Затым пастыр дыяцэзіі накіраваўся ў жамыслаўльскую капліцу Хрыста Валадара і Маці Божай Фацімскай. Вернікі сустрэлі біскупа з караваем, а малітоўная група "Рыцары Беззаганнай" паабяцала маліцца за свайго пастыра. Пасля літургіі ардынарый сустрэўся з малітоўнымі групамі парафіі. Прысутныя атрымалі пастырскае блаславенне, а на ўспамін візітацыі – абразкі з выявай Езуса Міласэрнага.

## Хор "Cantate Domino" адзначыў 17-годдзе свайго існавання

*Святочны канцэрт адбыўся ва ўспамін св. Цэцыліі, апякункі касцёльнай музыкі, у рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне. Падчас выступлення харысты дзякавалі за 25 гадоў існавання дыяцэзіі і біскупскай сакры яе ардынарыя біскупа Аляксандра Кашкевіча.*



На канцэрце сабраліся іерархі, святары, манаскія сёстры і аматары касцёльнай музыкі. Звяртаючыся да ўдзельнікаў хору, біскуп Кашкевіч адзначыў, што адчувае вялікі гонар, паколькі горад над Нёманам мае такі цудоўны хор. Выказаў удзячнасць спявакам, якія сваім голасам упрыгожваюць найважнейшыя касцёльныя ўрачыстасці як у Гродзенскай дыяцэзіі, так і за яе межамі. "Няхай ваша творчасць дапаможа ўратаваць ад забыцця і перадаць наступным пакаленням скарбы нашай культуры і традыцыі", – сказаў ардынарый.

На заканчэнне кіраўніку хору Генрыху Давідовічу быў уручаны юбілейны срэбраны медаль з нагоды 25-годдзя Гродзенскай дыяцэзіі. А ўсе спевакі атрымалі на памяць ружанцы, блаславёныя Святым Айцом Францішкам.

## Біскуп Юзаф Станеўскі наведаў з кананічнай візітацыяй парафію ў Іўі

*Іерарх сустрэўся з вернікамі, узначаліў св. Імшы ў касцёле і асвяціў адноўленую бакавую капліцу.*



Падчас візітацыі біскуп Станеўскі сустрэўся з малітоўнымі групамі, якія існуюць у парафіі, дзецьмі і настаўнікамі, наведаў Іўеўскую цэнтральную раённую бальніцу. Іерарх заклікаў ставіць Бога на першае месца, зрабіць Хрыста Валадаром свайго жыцця.

На заканчэнне візітацыі біскуп наведаў могілкі, дзе памаліўся за спачылых вернікаў і святароў, якія служылі ў парафіі.

## Пастырская сустрэча святароў дыяцэзіі адбылася ў Гродне

*Спатканне прайшло ў будынку Вышэйшай духоўнай семінарыі. У яго межах адбылася св. Імша, якую ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.*



У гаміліі іерарх адзначыў, што гэтая сустрэча мае асаблівае значэнне, бо перажываецца ў кантэксце Надзвычайнага года міласэрнасці, які толькі завяршыўся, а таксама ўрачыстасці Маці Міласэрнасці, апякункі Касцёла на Гродзеншчыне. "Перакананы, што кожны адчуў, якім важным, патрэбным і плённым быў гэты год – сапраўдны час ласкі для нас саміх і для вернікаў", – дадаў іерарх.

Ардынарый заклікаў прысутных абвяшчаць праўду аб Божай міласэрнасці не толькі словамі, але, найперш, учынкамі. "Няхай будзе як мага больш дабрыні, разумення, павагі, лагоднасці і пакоры", – пажадаў біскуп.

## Унікальны абраз св. Антонія Падуанскага набыў другое жыццё

*Выява святога, адрэстаўраваная дзякуючы карпатлівай працы вядомага рэстаўратара Уладзіміра Кіслага, зараз упрыгожвае пабрыгіцкі касцёл у Гродне.*



Пасля Другой сусветнай вайны абраз XVIII стагоддзя апынуўся ў падзямеллі касцёла Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі. Раней ён упрыгожваў сцены кляштара сясцёр брыгітак. Як адзначыў кс. Антоній Грэмза, рэктар пабрыгіцкага касцёла, абраз мае некалькі ўнікальных рыс: св. Антоній паказаны не проста ў хабіце францішканца, але і са стулай. Адметным з'яўляецца і тое, што на абразе паказаны сцэны з жыцця манаха.

У музеі касцёла зараз захоўваецца шмат абразоў, якія знаходзяцца ў паўразбураным стане. Рэктар касцёла спадзяецца, што паступова удасца аднавіць і ўсталяваць у святыні кожны з прадметаў сакральнага мастацтва.

## Рэкалекцыі цвярозасці прайшлі ў Гродне

*У духоўных практыкаваннях прынялі ўдзел каля 50-ці чалавек з розных куткоў Беларусі.*



Удзельнікі сустрэчы разам шукалі адказ на пытанне "Ці можна жыць без Езуса?". Разважалі над тым, што Хрыстос з'яўляецца Панам жыцця кожнага чалавека і дапамагае выйсці з розных залежнасцей. У праграме былі таксама супольныя малітвы, св. Імша, канферэнцыі, адкрыты сход групы ўзаемадапамогі для залежных, іх родных і блізкіх, Крыжовы шлях і адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту.

Рэкалекцыі завяршыліся св. Імшой, якую ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. На парозе новага літургічнага года іерарх заклікаў усіх адкрыцца на асаблівую дзейнасць Пана Бога. Пажадаў, каб час чакання сустрэчы з народжаным Божым Сынам праходзіў у атмасферы веры і малітвы, узаемнай любові, дабрыні і павагі.

Падчас рэкалекцый з канцэртам выступіў музычны гурт "AVE" з Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі. Клерыкі разам з удзельнікамі духоўных практыкаванняў спевам праслаўлялі Бога, які дапамагае чалавеку знайсці выхад з самых складаных сітуацый.

## АНОНСЫ

### КАЛЯДНЫ КАНЦЭРТ ПРОЙДЗЕ Ў ПАБРЫГІЦКІМ КАСЦЁЛЕ

**25 снежня, ва ўрачыстасць Божага Нараджэння, у гродзенскім касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі будзе цэлебравана св. Імша на англійскай мове. Пачатак Эўхарыстыі – у 16.00.**
**Пасля адбудзецца святочны канцэрт, падрыхтаваны студэнтамі з Афрыкі.**

*Сардэчна запрашаем!*

### АПЛАТКАВАЯ СУСТРЭЧА ДЛЯ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ПІЛІГРЫМКІ "ГРОДНА – РОСЬ"

**Спатканне адбудзецца ў гродзенскім касцёле Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі 26 снежня.**

Праграма:
19.00 – св. Імша ў інтэнцыі ахвярадаўцаў і ўдзельнікаў пілігрымкі,
20.00 – дзяленне аплаткай, салодкі пачастунак у дольным касцёле.

У плане сустрэчы калядныя песні і віншаванні са святамі Божага Нараджэння.
Запрашаюцца ўдзельнікі пілігрымкі, а таксама тыя, хто хоча імі стаць.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне:*
*(8-029) 784-05-72 – кс. Юрый Марціновіч.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**6 снежня 2001 г.** – кс. прэлат Алаізій Тамковіч, *праб. Астравец;*
**9 снежня 1942 г.** – кс. Ян Селевіч, *праб. Варняны;*
**9 снежня 1958 г.** – кс. Ян Славінскі, *праб. Поразава;*
**13 снежня 1997 г.** – кс. Юзаф Рагіньскі, *праб. Лаздуны;*
**14 снежня 2006 г.** – кс. прэлат Мар'ян Шчэнсны, *праф. Гродзенскай ВДС;*
**16 снежня 1975 г.** – а. Аркадзь Вальтась OFMConv., *праб. Гродна;*
**17 снежня 1996 г.** – а. Станіслаў Гаўлік CMF, *праб. Прывалка, Азёры.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***




*Хвала Хрысту!*

*Вітаю чытачоў моладзевай рубрыкі "На скрыжаванні". У сённяшнім нумары паразважаем пра супрацьстаянне дабра і зла, узброенне верніка і подзвігі, на якія ён можа быць здольны. Задумаемся, з-за чаго не трэба складваць зброю і чаму сорамна хавацца за камуфляжам звычайнага чалавека.*

*Наперад з Богам!*

# Стаць героем нашага часу

***ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ: "Зброя змагання нашага не цялесная, але моцная Богам на руйнаванне цвярдыняў, руйнуючы задумы і ўсякае ўзвышэнне, што паўстае супраць пазнання Божага, і беручы ў палон усякую думку для паслухмянасці Хрысту" (2 Кар 10, 4–5)***

Усё плоцкае – слабое, немачнае. Сапраўдная сіла – у Святым Духу. З Богам можна забыцца пра якія заўгодна цяжкасці і пераадолець любыя перашкоды. Але каб жыць з такой мужнасцю, неабходна, перш за ўсё, дабравольна прыняць гэтую ісціну. Па ўласным жаданні "здацца ў палон" Божай любові, каб пакрысе вызваліцца ад схільнасці да злога.

***ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА: каб ва ўсіх краінах знікла бедства, якім з'яўляецца вербаванне дзяцей-салдат***

У сённяшнім свеце, насычаным разнастайнымі непаразуменнямі, зацікаўленыя людзі выкарыстоўваюць любыя сродкі, каб дасягнуць пераможнага фіналу. У некаторых краінах для вырашэння ўзброеных канфліктаў наймаюцца дзеці. У лепшым выпадку псіхіка маладых людзей парушаецца, у горшым – дзеці пазбаўляюцца жыцця. Папа Францішак заклікае католікаў свету маліцца ў інтэнцыі знікнення такога бедства ў свеце.

***ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА: змаганне***

У жыцці назіраецца пастаяннае супрацьстаянне дабра і зла. І кожны ў праве выбіраць, чаму прысягаць і каму служыць. Тыя, хто змагаюцца на цёмным баку, разлічваюць на поспех памылкова: дабро ў выніку ўсё роўна пераможа. І яно ніколі не бывае марным, што можа быць заўважна не адразу. А чалавек з-за гэтага часта, на жаль, расчароўваецца і складае зброю: навошта ўсё? Варта захоўваць спакой і раўнавагу, не здавацца і памятаць пра трыумф у вечнасці.

***МЭТА МЕСЯЦА: стаць героем нашага часу***

Гучыць крыху дзіўна, але сучасны герой – гэта чалавек, які не робіць нейкіх выключных рэчаў, а проста імкнецца не прычыняцца да злога. Сёння гэтага дастаткова, каб выглядаць у вачах іншых асобай з выключнай адвагай і доблесцю. Тым самым "герой" захоўвае ў спакоі сумленне і праз свае паводзіны падае бліжнім прыклад.

Доля змагання ў жыцці такога чалавека ўсё роўна прысутнічае. Ён нястомна супрацьстаіць спакушэнню, граху. Але заўсёды памятае пра Хрыстовую армію, да якой належыць, і шчыт, якім з'яўляецца малітва.

***СПРАВА МЕСЯЦА: здзейсніць подзвіг, не чакаючы ўзнагароды***

Як ужо можна здагадацца з папярэдняга выказвання, подзвіг хрысціяніна не з'яўляецца чымсьці недасягальным. Гэта можа быць звычайная дробязь, зробленая ад шчырага сэрца, сапраўднае значэнне якой вядомае толькі Богу. Як вымяраецца шчырасць? Чалавек нічога не чакае ўзамен.

Некаторыя хрысціяне надзяваюць у жыцці "камуфляж", бо сведчыць пра ўваскрослага Езуса сваімі ўчынкамі бывае няёмка. Аднак важна памятаць, што ўсё, што ні было б зроблена, мае значэнне. Вызнаваць сваю веру адкрыта хоць і здаецца небяспечным, але паводзіны дэманструюць адваротнае. Добрыя справы належыць здзяйсняць з пачуцця доўгу перад Айцом, які дазволіў апынуцца ў дадзеных абставінах.

***ПЕСНЯ МЕСЯЦА: "Героі веры", Вольга Андрашчук***

"Гісторыя наша таямніцу стагоддзяў захоўвае аб подзвігах смелых нашых герояў веры...", – распачынае песню выканаўца. Указвае на іх вернасць і галоўнае, чым жылі вызнаўцы Хрыста – "не загубіць ворагу душы". У прыпеве спявачка некалькі разоў паўтарае, што Хрыстовая армія атрымлівае ўзнагароду, але "не тут – на нябёсах, дзе Айцоўскі дом". Сцвярджае, што Бог усё бачыць, "не дрэмле, не спіць".

***КНІГА МЕСЯЦА: "Госпад – воін моцны", Ульф Экман***




Аўтар разважае пра духоўную барацьбу, адказнасць і абарону. Разглядае страх у якасці ворага чалавека. Падрабязна спыняецца на моманце ўзбраення верніка. Вылучае шлем выратавання, браню праведнасці, абутак гатоўнасці ісці і дабравесціць, шчыт веры, меч духоўнасці і пояс ісціны. Усё гэта павінна зрабіць хрысціяніна цярплівым воінам, здольным перамагаць сілай Бога, адчуваць радасць у бітве, бачыць мноства выратаваных і зменены людзей.

***АСОБА МЕСЯЦА: св. Кацярына Лабурэ***



Нарадзілася ў 1806 годзе ў Фен-ле-Муцье (Францыя). Выхоўвалася ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Ніколі не хадзіла ў школу. Пасля смерці маці дапамагала па гаспадарцы. Ва ўзросце 20-ці гадоў хацела пайсці за старэйшай сястрой у манастыр. Але бацька быў супраць жадання дачкі і адправіў яе да сваякоў у Парыж. Там дзяўчына дапамагала ў рэстаране.

Сваёй рашучасцю яна нарэшце зламала супраціўленне сям'і і ў 1830 годзе далучылася да супольнасці шарытак. Кожны дзень служыла пры хворых. У 1835 годзе склала вечныя манаскія абяцанні.

Ужо ў навіцыяце духоўнае жыццё Кацярыны дасягнула вяршыні дасканаласці. У яе было шмат містычных уздымаў і бачанняў. Самае вядомае адбылося 27 лістапада 1830 года. Маці Божая аб'явіла ёй цудоўны медалік і наказала яго распаўсюджваць, пакінуўшы таксама абяцанне спасылаць шчодрыя ласкі на тых, хто будзе насіць гэты медалік. З той пары ён шырока распаўсюджаны і на нашых землях. Памерла 31 снежня 1876 года. Беатыфікаваў яе папа Пій XI у 1933 годзе, кананізаваў папа Пій XII у 1947 годзе. Успамін – 31 снежня.

***Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў снежні?***

*Св. Элігій (1 снежня), св. Францішак (3 снежня), св. Барбара (4 снежня), св. Мікалай (6 снежня), св. Леакадзія (9 снежня), св. Люцыя (13 снежня), св. Элеанора (19 снежня), св. Пётр (21 снежня), св. Вікторыя (23 снежня), св. Ян (27 снежня), св. Кацярына (31 снежня).*

*Усе заўвагі і пажаданні дасылайце ў рэдакцыю або на электронны адрас аўтара рубрыкі: pokachailo.lina@gmail.com.*

***Ангеліна Пакачайла***




# Сустрэча Душпастырства чыгуначнікаў прайшла ў Гродне

Працаўнікі чыгункі з Гродна, Парэчча, Ваўкавыска і Свіслачы сабраліся ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля з нагоды літургічнага ўспаміну сваёй апякункі – св. Кацярыны Александрыйскай. На ўрачыстай св. Імшы, якую ўзначаліў пробашч парафіі а. Дзмітрый Лабкоў CSsR, асаблівым чынам маліліся за ўдзельнікаў душпастырства і іх сем'і.









*паводле grodnensis.by*

**Лепш пытаць, чым памыляцца**

**А. Аркадзь Куляха OCD**

## *Ці забараняе Касцёл кадзіравацца ад залежнасцей?*

*Залежная асоба знаходзіцца ў асаблівым становішчы, звязаным з абмежаваннем яе свабоды. У такой сітуацыі чалавек патрабуе дапамогі бліжніх, а таксама людзей, якія займаюцца лячэннем залежнасцей на прафесійным узроўні. У асабліва складаных выпадках неабходна прайсці курс лячэння ў медыцынскіх установах.*

*Клопат пра жыццё і здароўе ў фізічным, псіхічным і духоўным вымярэннях з'яўляецца часткай навучання Касцёла. Яно спасылаецца на тое, што чалавек павінен прымаць такія рашэнні, якія дапамогуць яму рэалізаваць Божы план у сваім жыцці.*

*Кадзіраванне ад залежнасцей – адзін з метадаў, які свет прапануе сучаснаму чалавеку. Існуюць розныя меркаванні адносна гэтага. Напрыклад, у Вікіпедыі аўтар артыкула пра кадзіраванне негатыўна ставіцца да тэрапеўтычнага ўмяшальніцтва, называючы яго шарлатанствам. Сапраўды, дадзены спосаб лячэння недастаткова даследаваны. На сённяшні момант існуе вельмі мала інфармацыі, каб даваць поўную ацэнку гэтаму метаду.*

*Згодна з вышэй узгаданым меркаваннем, кадзіраванне лічыцца не толькі амаральным, але і нязгодным са здаровым сэнсам. Катэхізіс каталіцкага Касцёла перасцерагае вернікаў ад практык, звязаных з магіяй ці зваротам да д'ябла. Таму пры выкарыстанні розных метадаў лячэння залежнасці абавязвае пытаць у спецыялістаў, якой моцай праводзіцца тая ці іншая тэрапія. Рэкамендуецца карыстаць дапамогай хрысціянскіх псіхолагаў, псіхатэрапеўтаў, псіхіятраў і ўрачоў, якія ў сваёй дзейнасці кіруюцца прынцыпамі Евангелля.*

*Разглядаючы варыянт кадзіравання, вернік павінен захоўваць вялікую асцярожнасць і пільнасць у выбары бяспечнага метада лячэння (няхай ён нават будзе звязаны з працяглым працэсам рэгенерацыі арганізму, фізічнай і духоўнай сферы). Неабходна, каб чалавек ацаліўся цалкам і быў здольны прымаць свядомыя, дабравольныя і доўгатэрміновыя рашэнні адносна сваёй будучыні. Неацэнная у гэтай сітуацыі будзе малітоўная дапамога з боку родных і сяброў залежнага. Жыццёвы досвед паказвае, што працэс вызвалення ад залежнасці патрабуе часу, цярплівасці і цяжкай працы над сабой.*

*паводле grodnensis.by*

# ЧАМУЧКІ
## Дзіцячая рубрыка



## Чаму ў адвэнтавым вянку чатыры свечкі?

Трывае Адвэнт – радасны час чакання прыйсця Пана. Адна з самых прыгожых традыцый гэтага перыяду – запальванне чатырох свечак у вянку з яловых галінак. Звычайна тры свечкі чырвонага або фіялетавага колеру, а адна з іх, чацвёртая, бывае ружовай. Што ж яны азначаюць і чаму іх менавіта столькі?

У першую нядзелю Адвэнту ўрачыста запальваецца першая свечка, якая называецца Свечкай прароцтваў. Яна сімвалізуе біблейскія прадказанні, што папярэднічалі з'яўленню Збаўцы – Езуса Хрыста. Другая свечка запальваецца ў другую нядзелю Адвэнту. Гэта Бэтлеемская свечка, названая так у памяць аб падарожжы Марыі і Юзафа ў старажытны горад і нараджэнні там Езуса. Трэцяя свечка – Свечка пастухоў – гарыць у вянку ад трэцяй нядзелі Адвэнту. Яна прысвечана пастухам, якія з дапамогай анёлаў першымі прыйшлі пакланіцца Дзіцяці. Чацвёртая завецца Свечкай анёлаў. Запальваецца ў нядзелю напярэдадні Божага Нараджэння. Сімвалізуе Боскую сутнасць Збавіцеля.

### Заданне:

**Разам з бацькамі зрабі ў хаце вянок з яловых галінак. Змясці на яго чатыры свечкі. Падчас вячэрняга рахунку сумлення запальвай свечкі і разважай аб тым, як Табе ўдалося выканаць прынятыя на Адвэнт пастановы, ці атрымалася стаць праз свае ўчынкі лепшым чалавекам.**



**Чакаем Тваіх "чаму", якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі.**

На пытанні заўсёды гатовыя адказаць с. Вераніка Блізнюк FMA, салезіянскія аніматары Ганна Семак і Вераніка Рогач са Смаргоні.

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Салабуду**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем шмат радасці, душэўнага супакою, сіл і цярплівасці ў штодзённай паслузе, а таксама добрых і зычлівых людзей навокал. Няхай Пан Бог штодзённа Вас бласлаўляе, Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай і любоўю, а Святы Дух спасылае шчодрыя дары. Шчасці Божа!

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанай Сястры Валерыі**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, шчасця, поспехаў, добразычлівых людзей побач, апекі Маці Божай. Няхай Бог штодзённа дадае Вам сіл, аптымізму і надзеі на лепшае.

*Сям'я Рудых*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Кеўлюку**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, радасці, супакою, нястомнасці ў душпастырскай працы на кожны дзень. Заўсёды будзьце ахоплены промнямі Божай міласэрнасці, ласкай і апекай Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка. Шчасці Божа!

*Парафіяне з Ішчална і Скрыбаўцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Кеўлюку**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Твой святарскі шлях будзе шчаслівы і блаславёны, а побач знаходзяцца толькі добразычлівыя людзі. Няхай супакой і радасць пасяляцца ў Тваім сэрцы, а ўсмешка ніколі не сыходзіць з твару. Жадаем шмат здароўя, сіл і стойкасці, а таксама моцнай веры, надзеі і любові.

*Мама і родныя*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Пікулу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою. Няхай з Божай дапамогай здзяйсняюцца планы і намеры, Маці Божая няспынна клапоціцца пра Вас, а Усемагутны ўзнагародзіць за дабрыню. Шчасці Божа!

*З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне з Варнянаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Пікулу**

з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус, якога штодзённа трымаеце ў святарскіх руках, бласлаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць паслугу. Жывіце ў здароўі і радасці. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена супакоем і любоўю, а побач будуць добрыя і шчырыя людзі. Дзякуем за працу ў нашай парафіі, духоўную апеку, клопат аб нашай святыні, увагу да кожнага верніка, навуку, шчырую малітву, цярплівасць, добрае сэрца і ўсмешку.

*З малітвай і ўдзячнасцю, вернікі і Касцёльны камітэт з парафіі Унебаўзяцця НПМ у Дзятлаве*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Учкуронісу**

ў Дзень нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні ўсіх Божых ласкаў на кожны дзень. Няхай на дарозе, якую ўказаў Пан, Вам заўсёды спадарожнічаюць Езус і Яго Найсвяцейшая Маці, а жывы агонь Святога Духа, які палае ў Вашым сэрцы, ніколі не аслабне. Дзякуем за шчырыя малітвы, мудрыя казанні і прыклад набожнасці.

*Парафіяне са Старога Сяла*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яўгену Учкуронісу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя і радасці на кожны дзень. Няхай святы Заступнік штодзённа Вам спадарожнічае, усемагутны Бог ахінае сваім блаславеннем, Маці Божая нястомна апекуецца і абараняе ад ускага зла, а Анёл-ахоўнік асцерагае заўсёды і ўсюды. Дзякуем за клопат пра нас і нашу святыню.

*Удзячныя вернікі з парафіі Луконіца*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шмат здароўя, шчасця, душэўнага супакою, радасці і стойкасці. Няхай Святы Дух адорвае Вас усімі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік ахоўваюць ад ускага зла.

*Вернікі з капліцы Масаляны*

**Паважанаму Айцу Андрэю Жылевічу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў, моцы і цярплівасці ў выкананні душпастырскіх абавязкаў. Няхай добры Бог, якому Вы даверыліся, дапамагае пераадолець усе цяжкасці, а дарога, якой штодзённа крочыце, будзе шчаслівай і блаславёнай. Няхай здароўе будзе моцным, а ў сэрцы заўсёды жывуць вера, надзея і любоў. Няхай добры і міласэрны Бог штодзённа Вас бласлаўляе, каб далей крочыць па дарозе святарства. А мы заўсёды будзем маліцца за Вас.

*Малітоўнае кола "Маргарытка" з в. Сураж*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Лысаму**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца складаем шчырыя пажаданні, словы ўдзячнасці, павагі і прызнання. Жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, здзяйснення ўсіх мар і намераў, стойкасці, зычлівасці і добрых людзей побач. А мы са свайго боку будзем маліцца за Вас. І хоць цяпер працуеце далёка, памятаем, паважаем і любім Вас, а таксама чакаем сустрэчы.

*Кола "Маргарытка" з в. Сураж*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Вэдэру**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца, з глыбокай павагай і ўдзячнасцю перасылаем пажаданні Божага блаславлення, добрага здароўя, душэўнай раўнавагі, супакою ў сэрцы, дароў Хрыста. Няхай пранікнёныя казанні і прыгожыя навучанні, якія гучаць з Вашых вуснаў падчас кожнай св. Імшы, і надалей радуюць душы людзей, а святло веры распаўсюджваецца на ўсіх і прыводзіць да навяртання тых, хто яшчэ не пазнаў Хрыста. Бязмежна ўдзячныя Вам за шчырыя малітвы, прыклад набожнасці, памяркоўнасць, тактоўнасць і клопат аб нашай святыні і парафіянах. Заўсёды памятаем пра Вас у сваіх малітвах. Няхай усемагутны Бог аддзячыць Вам за ўсё, што для нас зрабілі, а Маці Божая асвятляе жыццё промнямі сваёй міласэрнасці.

*Віталій і Аліцыя Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Айцу Веславу Дамброўскаму**

з нагоды Імянін шчыра жадаем моцнага здароўя, няспыннай радасці, душэўнага супакою, шчасця і поспехаў у рэалізацыі ўсіх намераў, а таксама штодзённай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і шчодрага плёну на ніве Пана. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Дварца*

**Паважанай Сястры Антоніі Шэйгерэвіч**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца складаем шчырыя віншаванні. Няхай Маці Божая Кангрэгацкая ахінае Цябе сваім плашчом і сцеражэ ў цяжкія хвіліны жыцця. Пан Бог блаславіць Цябе і маму, адорыць шматлікімі ласкамі, здароўем на доўгія гады і радасцю. Дзякуем за малітвы, усмешку і зычлівасць да людзей. Шчасці Божа!

*Парафіяне з Поразава*

**Паважанаму Ксяндзу Прэфекту Андрэю Лішко**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, усмешкі на твары, радасці і нязгаснага запалу ў сэрцы. Няхай Бог, які паклікаў Вас да святарства, узнагародзіць і ўзмоцніць, каб жыццё было напоўнена дабрынёй, любоўю і надзеяй. Няхай Дух Святы адорвае сваімі дарамі, каб Вашы казанні маглі надалей радаваць і ратаваць душы. Жадаем добрых людзей на святарскім шляху. Дзякуем за паслугу ў нашай капліцы.

*Удзячныя вернікі з капліцы Божай міласэрнасці ў Свіслачы*

**Паважанаму Айцу Вальдэмару Слоту**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага блаславлення на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Святога Духа і шчодрага плёну на ніве Пана. Няхай здароўе, радасць і супакой ніколі Вас не пакідаюць, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Вялікай Бераставіцы*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Вальдэмару Слоту**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: усіх Божых ласкаў, моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, сіл і стойкасці ў святарскай паслузе, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама няспыннай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Дзякуем за няспынны клопат аб узрастанні нашай веры, апеку аб святыні і парафіянах.

*Парафіяне з касцёла Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы*

**Паважанаму Айцу Андрэю Ядкоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, цярплівасці, моцнай веры, надзеі, зычлівасці і пашаны ад людзей. Няхай добры Бог дапамагае ў рэалізацыі паклікання, абвяшчэнні Евангелля і пашырэнні Божага Валадарства на зямлі. Памятаем пра Вас у сваіх малітвах.

*Парафіяне з касцёла Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Пікулу**

з нагоды Імянін жадаем Божага блаславлення на кожны дзень душпастырскай паслугі, апекі Марыі Успамогі Хрысціян, а таксама моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, усмешкі на твары, душэўнага супакою і радасці. Няхай міласэрны Бог бласлаўляе і ўмацоўвае Вас сваімі ласкамі за ўсё добрае, што Вы робіце.

*Дзеці і моладзь з араторыя ім. бл. мучанікаў з Познані*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**

з нагоды 35-годдзя перасылаем букет найлепшых пажаданняў: шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя, душэўнага супакою і шмат сіл для выканання абавязкаў і планаў. Няхай моц Божай ласкі заўсёды асвятляе Ваш шлях, Маці Божая Вастрабрамская разам з войскам Анёлаў сцеражэ і абараняе Вас ад усіх нягод, суцяшае ў цяжкія хвіліны і прытуляе да свайго сэрца. Няхай Ваш святарскі шлях прыносіць шчодры плён і ніколі не згасае промень Божай міласэрнасці ў сэрцы. Дзякуем за тое, што Вы з намі і для нас.

*Удзячныя вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Капелану Андрэю Радзевічу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца прагнем скласці пажаданні шчодрых Божых ласкаў ад нашага Пана і толькі радасных хвілін у жыцці. Дзякуем за тое, што ў кожнай патрэбе Вы з намі, дзеліцеся дабрынёй і радасцю, лагодзіце смутак. Няхай Дух Святы апраменьвае святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі.

*Ад імя ўсіх членаў Таварыства палякаў – ахвяр палітычных рэпрэсій – сібіракоў, старшыня Галіна Якалцэвіч*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яўгену Учкуронісу**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем Божага блаславлення, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога, узрастання ў святасці і моцнага здароўя. Дзякуем Пану Богу за Вашае служэнне, цеплую ўсмешку і адкрытае, чулае на людзей сэрца. Шчаслівыя, што маем такога святара.

*З малітвай, вернікі з парафіі Дзярэчын*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 6024; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная